Разнастайнасьці

№ 15, 14 красавіка 1824 г.

Заўвагі галіцыяніна ў падарожжы да Літвы і Беларусі, што адбылося ўлетку 1822 года.

Магілёў, пад 53° 54ʻ шырыні і 48° 4ʻ 30” даўжыні; сталіца аднайменнай губерні, зьмяшчаецца на абодвух берагах Дняпра. Рэзыдэнцыя ваеннага і цывільнага губэрнатара і губэрнскіх уладаў, як таксама і каталіцкага арцыбіскупа і грэцкага арцыбіскупа, ці метрапаліта. Назва таго места паходзіць ад магіл, якіх шмат у той аколіцы. Таму па руску – Магілёў, ці места Могілёў. Пад расейскім панаваньнем гэтае места зрабілася значна прыгожым; а паколькі маё знаходжаньне тут было даўжэйшым, чым трэба, то спынімся на ім падрабязьней. Горад зьмяшчаецца над судаходнай ракой Дняпро, каля вусьця Дубравенкі, на правым беразе. Ад Шклова яго атачаюць раўніны, з поўдня і з усходу – Дняпро, а з захаду рачулка Дубравенка, невялікая, але шыбкая, а па-за ёй далейшы гарызонт хаваецца за ўзгоркамі і часткай лесу. Ляжыць на ўзгорку. Калісьці горад мусіў быць умацаваным, бо ён мае свае вялікаія і высокія валы з боку Дняпра, а з іншых бакоў малыя, амаль ужо зніклыя. Горад падзяляецца на 4 часткі. Першая складаецца з малага замку, аточанага земляным валам, у гарыстай мясцовасьці паміж Дняпром і Дубравенкай; другая частка ляжыць таксама на ўзгорку і аточаная насыпаным з зямлі валам, у ёй маецца 2 вуліцы і рынак, 3 царквы і ратуша, і яшчэ дыкастэрыя, дом губернатара і віцэ-губернатара, і вайсковая канцэлярыя, уласьцівасьць горада; трэцяя частка складаецца з трох прадмесьцяў, якія праз найвялікшую колькасьць насельніцтва становяцца на адзін ўзровень з цэлым горадам, яны аточаныя земляным валам, даўжыня якога расьцягваецца на тры вярсты. Адно называецца Лупутава, ляжыць за Дняпром, дзе калісь быў расейскі склад, і дзе стаяць яшчэ тыя самыя будынкі. Акрамя прадмесьцяў, ёсьць яшчэ паселішча ўздоўж нізкага берага Дняпра, якое называецца Пакроўскім, каля самай гары, на якой стаіць замак і крэпасьць. Другі вал за Дубравенкай, які ідзе вакол прадмесьцяў, мае можа 20 лакцёў вышыні, прасечаны брамамі, ад якіх разыходзяцца дарогі ў розныя напрамкі. Увесь дол па-за валам, што цягнецца аж да Дняпра, як і ўзгоркі з двух бакоў горада населеныя рознымі людзьмі і габрэямі, якія маюць 2 сінагогі. Днепр па вясьне можа залліваць усю прастору паміж узгоркамі, а дзе-недзе можа дайсьці і да паўмілі ў шырыню. Праз гэта дольняе прадмесьце штогод бывае залітае вадой, а людзі дабіраюцца да сваіх дамоў на чаўнах і вымушаныя жыць на стрэхах. На Дняпры тут ёсьць мост на сваях, зьбітых адна каля другой, па некалькі штук разам, а на іх пакладзены памост. Той мост пад едучым экіпажам прагінаецца, аж пакуль вада не праступае наверх, але ён вельмі добры. Аднак насупраць бернардынаў (хаця трохі далей маецца сталы мост) час ад часу людзей на другі бок перавозіць кабета, якая мае свой доўгі човен, у якім часта сядзяць разам 10 чалавек. Гледзячы на тое, як яна ўпраўляецца са стырном, можна падумаць, што яна нашчадак Харона. Ну другім баку Дняпра, за

прадмесьцем Лупутава, каля 1500 крокаў ад берага, ёсьць мураваны млын велізарнага памеру, але часткова разубраны і спалены. Хаця ён і стаіць на ўзгорку, аднак з яго не адкрываецца прыгожай панарамы Магілёва, толькі абмежаваная, толькі трошкі паказваюцца самые правыя вежы і дахі, а правае прадмесьце зьнікае зусім. – Горад налічвае 2109 дамоў і прыкладна 18000 сталага насельніцтва; а паколькі большая частка беларускай шляхты падчас зімы перасяляецца сюды, колькасьць насельніцтва ў тую пару бывае памножанай. У 1783 годзе мелася толькі 1778 хрысьціянскіх і 225 габрэйскіх сямей; у 1817 г. мелася 2000 дамоў і 12000 насельніцтва, а ў 1818 г. 13000 сталага насельніцтва. Шмат будынкаў пабудаваны з каменьня, але большасьць гладка пабудаваныя з дрэва у рознай архітэктуры (асноўнай зьяўляецца дарычная, дзе часта можна бачыць па 6 трыгліфаў) і размаляваныя цёмна – аліўкавым, белым і іншымі колерамі, з вокнамі і дзьвярмі заўсёды таго самага колеру. Усе будынкі прыгожыя і пакрытыя гонтам. Вуліцы шырокія і цалкам брукаваныя, хаця брук у Магілёве дарагі, бо брукаваньне вуліцы на 100 локцяў мае каштаваць 1000 рублёў асігнацыямі, з прычыны што камень, якога зусім няма з ваколіцах Магілёва, прывозяць з гор па Дняпру. – Вуліца ад Шклова аж да рынку над Дняпром найгодная і доўгая, брукаваная і забудаваная прыгожымі прыватнымі і ўрадавымі будынкамі. Тут таксама жыве галоўнакамандуючы. Тут стаіць прыгожая грэка-расейская царква с. Ёзафа; насупраць якой ужо скончаны да муроў велізарных памераў будынак вайсковых практыкаваньняў, які называецца *Manege*; даўжынёў на 170 крокаў і шырынёў за 55 крокаў. Наверсе ад плацдармаў будзе мецъ жылыя памяшканьні, з тыльнага боку зямля ўнізе адкінутая, што дазваляе трапіць у ніжнія памяшканьні. Гмах будзе вялікі, хаця просты, але прыгожы. Кроквы на даху будуць з мачтавага дрэва, каб вытрымаць на сабе 96 пудоў жалезнай бляхі; то бок: прыкладна 3800 фунтаў. Дах мусіць быць пафарбаваным у белае. У Магілёве пражывае шмат мясцовых і чужаземцаў, што маюць свае хаты і крамы, цукерні, *Marchandes de modes* і г.д. На васьмікутным грамадскім рынку, аточаным мураванымі будынкамі, знаходзіцца ратуша з каменьня пабудаваная, двухпавярховая з высокай вежай, у тым самым будынку зьмяшчаюцца купецкія крамы, і там жа знаходзіцца будынак дыкастэрыі, насупраць таго досыць вялікага гмаху стаяць два іншых будынка, прадназначаных для пражываньня губернатараў. Другая вуліца ў паралель з галоўнай таксама прыгожая, на ёй стаіць паштовая кантора і дом для салдацкіх сірот, прыгожа і з размахам пабудаваны на імпэратарскі кошт. – Цэркваў маецца шмат як у горадзе, так і на прадмесьцях. То бок: 20 цэркваў, грэцкіх і ўніяцкіх, сярод іх 10 драўляных, а астатнія мураваныя. Лацінскіх касьцёлаў толькі 4, то бок: катэдральны, кармеліцкі, бернардынскі і езуіцкі. Адна царква лютэранская, два грэцкіх манастыра. Шэсьць альбо сем царквей мураваных паводле пабудовы, здаецца, маглі быць калісьці лацінскімі, аднак пра гэта немагчыма казаць з упэўненасьцю. У цэрквах грэцка-расейскіх маюцца велізарныя званы, якіх добра чуваць з далячыні. – Катэдральны касьцёл маленькі, мабыць найстарэйшы з тутэйшых храмаў, і перабудаваны раней за рускімі, і ўжо быў зруйнаваны

французамі, а цяпер адрамантаваны, таму тым часам катэдра была перанесеная да кармелітаў. Базіліка, з усходу зьнешне мае карынфскі стыль, а далей тасканскі; непасуючая сумесь; пры ёй з бакоў маюцца прыдубовы,ператвораныя ў жылыя, дзе нават маецца шмат неахайнасьцей, выкарыстаньня дрэва і г.д. Касьцёл Кармелітаў (дзе зараз катэдра) досыць прасторны, прыгожы і вельмі сьветлы. Звонку іанічны, знутры *composite* і размаляваны *alafresco*; алтары без стылю, формы і кампазыцыі. Месцы канонікаў і сталец біскупа бедныя. Іконы пасрэдныя, аднак аздобленыя срэбнымі вотамі, сукенкамі і г.д. Алтара вялікага няма, пры гэтым у тым месцы катэдры алтар высунуты на сярэдзіну, а дараносіца зьмяшчаецца ў алтару з боку па правай руцэ. Касьцёл Бернардынаў таксама вялікі, але занядбаны, што бачна з усіх бакоў, аднолькава бедны знутры за выключэньнем {выявы} сьв. Антонія ў першым алтары, з асобнай галерэяй. Пры касьцёле Бернардынаў жывуць манахіні марыявіткі, якія не маюць уласнага касьцёла. Невядома, ці гэта заканамернасьць, бо я бачых іх і ў Оршы не маючых свайго касьцёла, што ўскладняе адукацыю паненак. – Асабаліва тут уражвае вочы замежніка, што ксяндзы сьвецкія і законныя носяць на шыях хусткі і белыя каўнеры, як прафаны. Законьнік, напрыклад кармелітаў, не мае на галаве вянка, камізэлькі ці хусткі, праз рукавы бачная каляровая кашуля з перкалю; калі надзене сюртук, то відавочна ніхто не прызнае яго за сьвятара. У Вільні я бачыў аднаго падобнага каноніка, які ўзыйшоў на сваё месца ані разу не павярнуўшыся да алтара, але бесперапынна рабіў пантамімы элегантна пакручваючы акулярамі, што магло засмуціць нават прафана. Тут бачыў двух такіх падобных канонікаў, але ў адрозьненьні ад таго кармеліта гэтыя, здаецца, былі прафанамі. – Калегіюм езуітаў быў заснаваны Аляксандрам Гасіеўскім, ваяводай смаленскім. Езуіцкі касьцёл маленькі і дастаткова бедны, знутры досыць добра размаляваны *alfresco* Карнэліям Янам Горскім у 1803-м годзе. Астатнія абразы, здаецца, былі нядаўна ўстаўленыя ў алтары, бо яны карацей за месца ў алтарах, але аркі майстэрскай працы, рамы каштоўнай разьбы з пазалотай. Пан Езус на крыжу, на левым баку ад уваходу, вельмі дасканалай разьбы, якую рэдка дзе можна ўбачыць. У астатнем аднак надта шмат прыгожай прастаты. Дараносіца, амвон узорныя; першы ў дарычным стылі, як таксама і вялікі алтар, другі гладкі, толькі з лаўрамі і разэткамі, а наверша з арабескамі ў пазалоце, просты, але прыгожы. Вартых увагі абразоў 10, і яшчэ два ці тры ардынарных, ва ўсім касьцёле іх больш няма. Паміж першымі маюцца такія самыя 4, бо акрамя рам яны маюць можа толькі 12 – 24 цалі ў вышыню; такі голы касьцёл. Што да зьнешней прыгажосьці, то той касьцёл найаздоблены. На вежы пры касьцёле ёсьць гадзіньнік. Калегіюм у прапорцыі да касьцёла досыць вялікі. – Пакуль набажэнства вядзе сьвецкі сьвятар; але кажуць, што тут будуць дамінікане. У гэтым месцы варта прывесьці колькі словаў пра езуітаў. (...).

№ 16, 21 красавіка 1824 г.

Заўвагі галіцыяніна ў падарожжы да Літвы і Беларусі, што адбылося ўлетку 1822 года. (Працяг)

На Шклоўскай вуліцы, як распавядалася вышэй, стаіць найпарадны, ці найвясёлы грэцка-расейскі храм сьв. Ёзафа, узведзены на кошт імпэратара Ёзафа II на памяць аб яго сустрэчы ў 1780-м годзе з імпэратрыцай Катарынай II у гэтым горадзе. Базіліка дарычная з каланадай без стылю, не паказвае ані архітэктурай, ані багацьцем, якімі той гамах павінен вылучацца будучы ўзведзены замежным манархам. Усім гэтым тая царква вылучаецца знутры; яна ўся пакрытая мазаікай, нібыта найпрыгожым мармурам, а на дзьвярах, што называюцца Царскай брамай, маецца на адной палове абраз сьв. Катарыны, а на другой сьв. Ёзафа, майстэрскі намаляваныя. Імпэратрыца з узаемнай пачцівасьці загадала ўзвесьці ў Херсоне такі самы храм на памяць аб тым жа Ёзафе II. Там яна таксама сустракалася з імпэратарам. Той храм, што стаіць у Магілёве, мае імя сьв. Ёзафа, а той іншы сьв. Катарыны. –

Акрамя старага замку на ўзвышшы, які ўпрыгожвае ўвесь горад, двух палацаў арцыбіскупскіх, прыватных крамаў і іншай шэраговай забудовы, асаблівай увагі заслугоўвае палац метрапаліта беларускага; гэта вялікі гмах пакрыты бляхай, зьяўляецца адным з напрыгажэйшых у Магілёве, мураваны і мае на заднім двары прылягаючыя велізарныя будынкі, рознага прызначэньня. Сам корпус, кажуць, будзе заняты ўрадам, бо пасьля французаў застаўся моцна пашкоджаным, таму адрамантаваны і адданы дзеля зьмяшчэньня ў ім нейкага аддзелу вайсковай адміністрацыі. Да яго належаць 3 царквы, што стаяць паблізу, якія, здаецца, калісьці былі лацінскімі касьцёламі. Акружэньне таго будынку было цалкам спаленае і зьнішчанае французамі. Дзе цяпер стаіць велізарны будынак прызначаны дзеля вайсковых практыкаваньняў, там калісьці мусіў быць драўляны ўрадавы будынак, які называўся: Двор імпэратарскі, дзе тады пражывалі царыца Катарына і імпэратар; цяпер цар спыняецца альбо ў кватэры галоўнакамандуючага, альбо ў грамадскім будынку, то бок там, дзе бываюць выбары, і дзе знаходзіцца канцэлярыя грамадскіх актаў. Абодва тыя будынка драўляныя, але вялікія, другі аднак з цокалям і вялікай залай і ў больш прыемным месцы, чым першы. – Да навучальных устаноў адносяцца: школы губернскія, што называюцца гімназыі, да якіх жыхары тутэйшыя дрэнна ставяцца і заўжды аддаюць перавагу езуіцкай школе. Адна школа гарадская. Школа ў будынку архіерэя, ці інакш кажучы, духоўная семінарыя, грэцка-расейская. Яна надта добрая і вартая ўхваленьня, у ёй выкладаюцца ўсялякія навукі, якія могуць выкладацца толькі ў розных клясах сьвецкіх школ, таму ў ёй бывае значна больш вучняў, чым у іншых. Акрамя тых маюцца вайсковыя школы, дзе таксама ўсё вывучаюць, але з пасьля тых школ нельга больш нікуды пайсьці, акрамя як у войска. І паколькі тут маецца толькі адзін стан, вайсковы, то кожны хоча аддаць туды, каб яго дзіця хутчэй атрымала ранг. Нізкія саслоўі ставяць яе пад над усімі іншымі, паколькі ўсе астатнія асаблівасьці ў іх роўныя; але высокія саслоўі адаюць сваіх дзяцей у Пецербург, у школу пад назвай *Peterschule*, якая ёсьць найлепшай і

найпаважанай ва ўсім краю. Вайсковая школа адкрытая толькі ад 9-га сьнежня 1820 г. і знаходзіцца ў вялікім нова пабудаваным адмыслова для гэтай мэты гмаху. Яна зьяўляецца цэнтральнай для ўсіх наступных школ, якія маюць быць адкрытыя пры карпусовых штабах Першай арміі. Прадметы навучаньня ў ёй наступныя: рэлігія і навука маралі, мова расейская, гісторыя, геаграфія, арыфметыка, геаметрыя, алгебра, вывучэньня ўстава расейскай арміі, тапаграфічнае маляваньне, сітуацыйнае здыманьне мясцовасьці, маляваньне, каліграфія, хуткапіс (графадромія), шэраговая служба, стральба па цэлі, фехтаваньне і язда верхам. Настаўніцкія абавязкі выконваюць афіцэры арміі і некаторыя з высшых настаўнікаў губернскай магілёўскай гімназыі. Тут таксама ёсьць шкаол ўзаемнага навучаньня, для салдацкіх дзяцей. Калі прачытаць перыядычнае выданьне Свініна (выходзіць у Пецербурзе пад назвай: Успаміны айчынныя), то можна пераканацца, што Ўрад выдаткуе неверагодныя сумы на краёвую адукацыю, і тое, што Пётр Вялікі і Катарына II заснавалі, Аляксандр палепшыў; у акадэміі і інстытуты стала перадаюць новыя найвыбітныя ў сьвеце зборы, бібліятэкі і г.д., і заклікаюць найдасьведчаных людзей як мясцовых, так сама і замежных, займаць там уласьцівыя ім месцы, каб у выніку перанесьці сталіцу разумнага сьвету на поўнач і пад сваё панаваньне. – У вышэй узгаданую вайсковую школу кожны вольны (то бок той, хто не зьяўляецца падданым ці прыгонным) можна свабодна аддаць сваё дзіця, як толькі яно народзіцца. Бедныя бацькі лічуцца шчасьлівымі, калі маюць некалькі сыноў, гэта ўсё адразу мяняе для іх, усё робіцца лепей, і будучыня ўсьміхаецца ім насустрач лякуючы іх сэрца. З дню запісаньня сына да вайсковай школы на таго сына вылучаецца порцыя вайсковай мукі. Што ўжо ёсьць дапамога беднай хаце. Калі сын потым добра вучыцца, то ўжо ў дзяцінстве, часам у 7 ці 8 гадовым узросьце, мае ўжо ранг. Калі даходзіць да 15 ці 18 год, то адпраўляецца ў полк простым афіцэрам, і ў кароткі час у залежнасьці ад сваёй здатнасьці, ці ад якога агляду, альбо нарэшце праз добрыя абставіны і праз, звычайна ў тым ліку, выслугу, калі робіцца маёрам, то залічаецца ў мясцовую шляхту і стварае новую шляхецкую дынастыю, якае дае моцны вузел грамадскага згуртаваньня і прывязанасьці да айчыны і Манарха, які бедную істоту часта ўжо ў першым пакаленьні выводзіць з нічога да найвысокай у краю ступені. Паляк, немец, ангелец, француз, італьянец, грэк і г.д. разглядаюцца яе прадстаўнікі народу, калі турак, татарын, азіят цалкам трымаюцца абавязкай добрасумленнага грамадзяніна, то прымаюцца ўрадам з роўнай прыхільнасьцю як і праваслаўныя, і атрымліваюць падтрымку як тутэйшыя, яны напаўняюць усе аколіцы велізарнай і багатай Расеі і робяцца яе першачарговай сілай і моцай, сілай і моцай, што абапіраецца на прывязаннасьць да краіны і Манарха і нічым не можа быць парушаная. Дзе яшчэ саслоўе падданых, асабліва беларускіх (бо іншых я ня ведаю лепш за іх), магло бы быць нейкім чынам палепшанае, і выведзенае з пакутаў і недарэчнасьці, што ўласьцівыя зараз на мяжы Расейскіх уладаньняў, якія раней былі польскімі правінцыямі, атрымаць прыстойны выгляд. Да арганізацый дабрачыннасьці належаць 6 дамоў для бедных і 1 шпіталь, пабудаваны і трымаецца ў вельмі

парадным выглядзе. Вялікая плошча занятая домам вайсковых сірот (*военно-сиротское отделение*), там былі ўсталяваныя новыя памяшканьні, вельмі прыгожыя. Кажуць, што тых сірот маецца прыкладна 6000. – Столькі грамадзян, ці абаронцаў краіны Ўрад такім чынам не абараніў ад гібелі, а цяпер забясьпечыў сабе іх удзячнасьць і самаахвярнасьць!

Жахары хрысьціяне гэта каталікі, грэцкія, уніяты і ў меншай колькасьці люцеране. Горад аточаны мноствах агародаў з гароднінай. Усе без выключэньня шырокія, годныя і досыць дагледжаныя. А паколькі тут зьмяшчаецца галоўнае камандаваньне расейскіх войскаў, то горад амаль цалкам заняты вайскоўцамі, таму просты салдат не можа інакш ісьці па вуліцы, акрамя як у шыку і парадку, бо на кожным кроку можа напаткаць афіцэра. Цывільным годна апранутых асобаў амаль не бачна, хіба толькі ў брычках, альбо ў дамах. Вайскоўцы вельмі спакойныя; пануе надзвычайная цішыня і парадак. Зьмена караула адбываецца на плошчы паміж катэдрай, езуітамі і цэрквамі арцыбіскупскімі; заўсёды з музыкай і ў вялікім парадзе. Манеўры войска, шыкоўнасьць і лёгкасьць вельмі прыгожыя. – Я трапіў у Магілёў на дзень імянінаў царксіх. Дождж ліў усю ноч, парад наступным ранкам хацяі па гразі, але адбыўся. Я пайшоў да храма, дзе сабраўся галоўны штаб. Набажэнства было звычайнае, і нічога болей. У катэдры таксама пасьля набажэнства адсьпявалі *Te Deum laudamus*, і потым усё сончылася. Канторы ў той дзень былі зачыненыя, сьвята аднак не было бачна, як бывае звычайна ў Галіцыі, у царскім маёнтку. Аніводнага стрэлу з гармат і ніякага надзвычайнага парадуу не было. Праўда атрымліваецца! Што край, то звычай. –

Арцыбіскупства рымска-каталіцкае было ўведзенае Імпжратрыцай Катарынай II у 1782 г. Магілёўскі магістрат мае вялікія прывілеі ад каралей польскіх, і яму нададзены тытул шляхетнага, з вольнасьцю нашэньня шаблі на баку як у агульнай шляхты. – Гараджане займаюцца разнастайнымі рамёствамі, асабліва шмат тут гарбароў, што робяць юхтавыя скуры, целячыя, сафьянавыя і падэшвенныя; слесароў, збройнікаў і іншых рамесьнікаў; таму там вельмі істотныя скураныя і жалезныя фабрыкі. З даўніх часоў гэты горад быў славуты вырабам розных стрэльбаў. Найбольшы гандаль яны вядуць яны тут мясцовымі пладамі і вырабамі, але ня меней і замежнымі таварамі. Найвялікшую колькасьць вязуць да Рыгі, Мемеля, Каралеўца і Гданьска, куды адпраўляюць рагатае быдла, дрэва, збожжа, пяньку, лён, алею канапляную, мёд, воск, поташ, скуры і лой. Дрэва ў значных колькасьцях сплаўляюць Дзьвіной да Рыгі, а па Дняпру дастаўляюць да чарнаморскіх партоў. А праз іх цягнуць далей да Адэсы. Купцы тут надта заможныя; больш нізкі ўзровень займаюць габрэі. Тут бываюць таксама вялікія кірмашы; куды прывозяць тавары з Рыгі альбо Брадоў. Іх кошт канечне істотны, але ў параўнаньні з такой далёкай дастаўкай немагчыма чакаць іншага. Юхтавыя скуры надта дарагія і надта маленькія, то бок, выраб маецца, але добрых рамесьнікаў мала. Звычайная ткаіна дарагая, у параўнаньні з Галіцыяй, бо за тое, што там можа каштаваць 12 грошаў срэбных за локаць, тут пэўна 24 трэба будзе аддаць. Лён аднак расьце ў

неверагоднай колькасьці. На Дняпры ловяць баброў і выдры, калі забіваюць іх у лістападзе і сьнежні, то даюць за іх па 70-80 раблёў асігнацыяміза штуку, бо футра іх у тую пару найлепшае, асабліва ў старых. У іншы час, а асабліва летам, забітыя не такія добрыя, і за іх бывае даюць толькі па 10, 12 ці 15 рублёў асігнацыямі, нават з бабровай струёй. Можна часта бачыць як іх носяць па вуліцах дзеля продажу. Скуркі ў той час дрэнныя. – Караблі са збожжам на Дняпры ў Магілёве стаіць досыць вялікія, і здаецца, што некаторыя маюць даўжыню да 80 локцяў, забясьпечаныя зьверху адной мачтай і перавозюць па некалькі тысяч бушаляў збожжа. Людзі, што сыходзюць з іх, закупаюць збожжа і выносюць, ці вывозюць. У той час іх было 4; добра зробленыя і новыя; потым 3 адышлі, і прыбылі зноўку 4, увесь час падыходзюць і адыходзюць. – Напрыканцы верасьня і ў кастрычніку рынкі запоўненыя дровамі і будаўнічым дрэвам. Дранку вывозюць толькі шырынёй па 10 і 12 цалей, а дошкі надта малыя, і самыя шырокія з іх маюць 8 цалей. Крохвы і прагоны сабраныя ў кубы па 12 локцяў, 2 р. срэбрам. Дошкі па 12 локцяў, 2 цалі, 2 рублі асігнацыямі. Копа дранкі, 2 рублі асігнацыямі па 3 локці. Копа гонту па 14 ці 15 капеяк. Дошка цалёўка 2 польскіх злотых срэбрам. Фура лепшага дрэва аднаконная, 80 капеяк; горшых – 70 ці 60 капеяк. Копа капустных качаноў прыгожа палушчаных і адабраных: 90 капеяк, ці 44-45 грошаў срэбрам. На рынку знайшоў рэпу незвычайную, а дакладней нябачанага памеру, гладкую, плоскую і акруглую, падобную да вялікай талеркі ледзь не большага за звычайны памеру. Агуркі затое дробныя; ня гледзячы на тое, што агароды не здаюцца багатымі на гародніну, аднак на рынках яе бывае вельмі шмат, але збожжа няма. Яблыкі і грушы лепшага гатунку прыбываюць сюды з Украіны на караблях. Аднак чырвоныя сьлівы, што лёгка адыходзяць ад костак, тут растуць свае, якія дазраюць каля 15 верасьня і не раней. – Ня гледзячы на наяўнасьць тут шматлікіх прыродных сенажацяў, сена каштуе дорага. За аднаконную фуру добрага сена плоцюць 5-6 рублёў. За аднаконную фуру сена з асакі, 2 ці 2½ рублі асігнацыямі. Чвэрць аўса ад 80 галонаў (56½ галонаў літоўскіх) каштук 12 рублёў. Калі кошт падае то бушэль па 5 рублёў. Напрыканцы кастрычніка 1822 г. кошт збожжа быў наступны: пуд жыта – 2 рублі, пуд пшаніцы – 3 рублі, ячменю – 2 рублі, аўса чвэрць – 11 рублёў, пуд гароху – 3 рублі, пуд грэчанай крупы – 3 рублі. На пуд жыта ідзе 10 галонаў. Пшаніцы і ячменю роўна 7½ альбо 8 галонаў. Круп грэчаных у чвэрці пудоў 8. Гароху – 9. – Чвэрць азначае 80 галонаў. Пуд жытняй мукі – 2 руб. 60 кап. Пуд пшанічнай мукі – 3 руб. 80 кап. Пуд проса – 3 руб. 80 кап, і яно тут вельмі рэдкае. Няспынны імпарт збожжка баркамі з Кіева зрабіў кошты такімі таннымі. – Бушаль львоўскі па 32 галоны мае літоўскіх галонаў 45 $^{3}/_{25}$, а вось пуд беларускі па 24 галона мае львоўскіх галонаў 17 $^{3}/_{141}$. Таму 1 польскі галон мае літоўскіх галонаў 1, 1 кварту і каля $^{2}/_{3}$ кварты. А ў сваю чаргу літоўскі галон мае 3 польскія кварты і каля $^{1}/_{12}$. 160 літоўскіх галонаў складаюць 113 галонаў польскіх; 80 -> 56 ½; 40 -> 28 ¼; 20 -> 14 $^{1}/_{8}$; 10 -> 7 $^{1}/_{16}$. Сто галонаў львоўскіх складаюць 114 літоўскіх. – Габрэі, якія набываюць збожжа ў сялян, не вымяраюць яго іначай як квартамі, хаця бушалямі было б зручней. Насыпаюць заўжды так, каб каўнер на

кварце не мог утрымацца, пры гэтым кварта мае збожжа ў улікам каўняроў, што можа зрабіць прадаўцу шкоду на адну шостую частку.

Што да знакамітых падзей горада Магілёва, то гэта наступныя: У 1616 годзе Ўладзіслаў IV, сын Жыгімонта III, зьбіраў тут войска польскае, з якім рушыў на Маскву. У 1654 г. горад быў захоплены маскоўцамі, у наступным годзе палякі яго абклалі, пры чым мусіла загінуць да 80 000 гараджан. Потым зноўку ўзяты маскоўцамі і ў 1660 г. безпасьпяхова абкладзены палякамі, якія мусілі адступіць ад аблогі. Толькі ў 1662 годзе жыхары тамашнія адабралі горад у маскоўцаў гарнізон часткова праз здраду зьнішчыўшы, часткова ў палон узяўшы. Тое адбылося ў часы крывавых і зацятых войн паміж Польшчай і Расеяй, калі пад войтам па імені Пара было зьнішчана ў горадзе 7000 расейцаў, якія хацелі пазьней выразаць увесь горад. Войт Пара меў іншае імя, а Пара ад Пора, час, было дадзенае яму ў мянушку, таму што калі ён вучыўся і хадзіў у школу, то вяртаўся адтуль не хутка, і астатнія дамачадцы, калі нехта ўзгадваў пра абед, адказвалі заўжды, што яшчэ няма студэнта, то яшчэ не пара; а калі той вяртаўся, крычалі: вунь “пара” ідзе; то бок пара есьці даваць. Начальнікі збройнай сілы маскоўскай перад пачаткам дамоўленай паміж сабой разьні сабраліся ў цэрквы брацкай (так яна называлася), чакаючы прызначанага часу. Войт даведаўшыся раней пра намеры расейцаў ад адной дзяўчыны, у якую салдат закахаўся і адкрыў ёй таямніцу, каб яна там не знаходзілася, вырашыў апярэдзіць расейцаў. То калі распачалася разьня, масковец кінуўся да царквы і распавёў начальніку, што Пара паўстаў. Той падумаў, што ён нагадвае яму, што ўжо прышла пара пачаць разьню, паглядзеў на гадзіньнік, і са спакоем яму адказаў, што яшчэ не пара, а толькі праз гадзіну. Але неўзабаве народ даў яму зразумець сваю памылку, калі яны кінуліся да царквы, усіх выцягнулі на могілкі і вылішылі іх жыцьця. У 1707 годзе швэды атрымалі тут значную перамогу над маскоўцамі. Каля горада ёсьць высокі пагорак, які Карл XII з малай колькасьцю людзей ўзарваў, каб выгнаць адтуль маскоўцаў, але быў падчас гэтага паранены. У 1708 годзе горад быў абрабаваны і спалены маскоўцамі. З 1773 году знаходзіцца пад панаваньнем расейскім. У 1780 г. праславіўся візытам імпэратрыцы расейскай, Катарыны II, і кесара Ёзафа II. За польскім часам належала да Мсьціслаўскага ваяводства. А эканомія магілёўская, пакуль той край не быў анэксаваны, належала да каралеўскіх уладаньняў. Знаходзіцца ад Пецербурга ў 846 вёрстах, у 107 мілях ад Варшавы, 68 мілях ад Вільні, а ад Мсьціслава ў 23 мілях, ці 139 вёрстах. – Магілёў быў шмат разоў схілены да Уніі, адак заўжды адчапляўся ад яе. Пры жыцьці сьв. Ёзафата, нават замкнуўся перад ім, але потым адчыніў брамы, прыняў яго і вярнуўся да Уніі. Потым зноўку адарваўся ад Уніі і дагэтуль так застаўся. Аднак гараджане тутэйшыя аднолькава да цэркваў як і да касьцёлаў ходзюць і паводзюць сябе з годнасьцю. Тут можна бачыць жанчын, салдат і іншыя катэгорыі і тыпы людзей, што прыносяць сьвечкі ахвярныя да алтара Нашай Панны, альбо да касьцёла Сьв. Антонія, і бьюць паклоны так добра, як у цэрквах расейскіх; і нават праходзячы каля касьцёлаў, спыняюцца, схіляюцца і кланяюцца роўна як і перад цэрквамі; акрамя

высшых сасловій і духавенства, бо тыя ані перад сваімі, ані перад іншымі таго не робюць. – Знаходжаньне тут французаў не было надта непрыемным, бо ўсе яны плацілі. Маршал Даву быў вельмі суворы, таму трымаў парадак, і шмат людзей было расстраляна за дрэнныя ўчынкі. Тыя, што знаходзіліся пры французах: італьянцы і гішпанцы, былі горшыя і нават ўлыя людзі. Вестфальцы, баварцы, а горш за ўсіх іх ўзгадваюць войска польскае. Саксонцы аднак аказаліся найспакойнымі. У тутэйшых аколіцах пад Салтанаўкай, каля 40 вёрст ніжэй па Дняпру, таксама была бітва, але толькі агнявая.

№ 17, 28 красавіка 1824 г.

Заўвагі галіцыяніна ў падарожжы да Літвы і Беларусі, што адбылося ўлетку 1822 года. (Працяг)

Магілёў ляжыць на ўзгорку і выглядае добра з кожнага боку, але в’езд у яго ад Вільні, ці з Захаду, найпрыемны. Тут Магілёў паказваецца ва ўсёй сваёй прывабнай постаці, і выглядае нібыта вельмі вялікі горад. Калі б трэба было яго намаляваць, здаецца, што толькі з таго боку ён мог бы атрымацца нейбольш прыгожа. Праўда, тады Дняпро бяжыць па леваму боку, але з гэтага месца надта добра выглядаюць усе храмы, веды, лепшыя будынкі, *manege*, дыкастэрыя і ўрадавыя памяшканьні, і як раз уся даўжыня шклоўскай вуліцы з яе надта прыгожымі будынкамі аказваецца нібыта на далоні. Тое самае мусіць быць, клаі ехаць ад Мсьціслава, то бок з Усходу, з той розьніцай, што з пагоркаў бачны Дняпро, але затое найпрыгожыя будынкі часткова закрытыя валамі, высокімі з таго боку, часткова дрэвамі прадмесьцця, а часткай самім схілам на процілеглым баку. Падобны прыклад я меў, калі быў на левым баку Дняпра, у падмесьці Лупутава, у велізарным мураваным млыне, часткова разбураным і спаленым, у 1500 кроках ад берагу. Хаця горад стаіць на ўзгорку, аднак ракурс Магілёва адтуль атрымліваецца непрыгожы, зусім сьціснуты, і самыя правыя вежы і дахі толькі трошкі бачныя, а правае прадмесьце здаецца зьнікае. – Аколіцы Магілёва прыгожыя і адкрытыя. Палі шырокія, і дзе нідзе толькі паказваюцца лясы, што даказвае, што тут сельская гаспадарка тут мусіць быць у добрым стане. Аднак надта рэдка можна сустрэць вяскоўцаў, ці сялян. Каля тракту вёсак няма, часам можна бачыць вазы аднаконныя, ды і тымі часта кіруюць людзі надта няшчасныя і, можна казаць, па большай частцы вельмі маладыя жанчыны і дзяўчыны. Вазы тыя аднолькавай формы з тымі, якія я заўважыў у Кобрыне. Коні маленькія і нізкія. Люд той, што так падарожнічае, апрануты надта няшчасна і дрэнна. Твар бляклы і паніклы, у мужчын досыць запушчаная барада. Ботаў не носюць. Жанчыны нават ходзюць у лапцях. Словам, іх узрост і колер твару даказвае, што яны заўжды знаходзяцца ў бядноце і нястатку добрай ежы, а вопратка паказвае іх жабрацтва, як яно ёсьць: насамрэч, калі нават у самыя ўрадлівыя часы яны мусяць есьці хлеб з саломай. Аднак з паноў ніхто не мае падобнага колеру твар, наадварот на іх адлюстроўваецца сама моц і найкрэпкае здароўе; такім чынам можна

меркаваць, што і сяляне, калі б іх становішча палепшылася, маглі б мець моц, сілу і колеры твару. Але як жа падданы можа мецца добра, калі пан ад усіх яго дамачадцаў патрабуе адпрацовак па 2 дні штотыдзень; і так, калі падданы мае ў сваёй сямы чатырох чалавек, старых, ці маладых, тады мусіць адпрацоўваць 8 дзён штотыдзень. Напрыклад, ён мае старага айца і малое дзіця, а жонка цяжарная, якім чынам адзін чалавек за 6 дзён можа адрабіць 8? Павіннасьці таму адкладваюцца, і калі жонка акрыяе, мусіць разам з мужам штодзень быць на паншчыне, пад пакараньнямі, якія ня маюць ніякага абмежаваньня. Паны тутэйшыя такім чынам мусяць мець толькі жорсткія сэрцы, у якія не трапляе ніводнага далікатнага пачуцьця, альбо тыя людзі мала цэнюць сабе падобных. Я хацеў бы, каб гэта ўсё было толькі ўявай, каб я мог бачыць усіх весялейшымі. – Люд вясковы тут, абодвух палоў, не мае агіднай фізыяноміі, і наогул досыць прыемны, а недзе падобны да жыхароў Самары. Жанчын, маладога ўзросту, не раз атрымлівалася ўбачыць і такіх, якія маглі б быць прыгожымі, каб не лахманы і змардаванасьць. – Пачынаючы ад Сьверу і датуль на ўсіх жанчынах бачныя карсэты, чорныя, зялёныя, блакітныя, у рэшце з белай ткаіны, і гэта здаецца найгодная вопратка, хаця пры гэтым ногі заўжды ў лапцях.

Ёсьць пэўная рэч, што заўжды каля лясоў палі, калі яны не знаходзяцца ў сталым ужываньні, хутка зарастаюць маладымі дрэвамі. Пра гэта сьведчаць прыклады з усіх бакоў. Хаця нідзе так відавочна не сустракаецца поле, што ператвараецца ў лясы, як у тых аколіцах. Чалавек тут, як відаць, увесь час прыспасабліваецца да прыроды. Высякаюць лес у тым годзе, пакідаюць яго, каб дрэва пасохла, а наступнай вясной як толькі сухія ветры абдзьмулі зямлю, падкладаюць агонь, і так кіруюць ім, каб усё тое пасечанае ў попел ператварылася. Тут цяпер саха арэ закапцелую зямлю, і яна яшчэ не састыла, а зерне ўжо выпускае карэньне і прабівае прыгожы колас, шчодра аплочваючы потым сваім плёнам прадзеланую гаспадаром працу. Глеба гэткая, з лесу толькі што зробленая, вельмі урадлівая, таму год за годам 3 і 5 год засяваецца. На тым месцы недзе застаецца кавалак поля пад парам, якое пакідаецца дзеля адпачынку на год ці два, яго не кранаюць, а ўжо на ім уздымаюцца бярозы, і калі з аднаго боку чалавек зрабіў поле з лесу, з другога боку лес у яго столькі сама, ці нават больш, поля адабраў. Словам, чалавек зьнішчае сякерай і агнём парослыя на яго нівах лясы, а лес у сваю чаргу вырывае ў яго з пад рукі яго нівы, а прырода тут таксама настолькі ўрадлівая, што ў 2 ці тры года засявае паравае поле і закладвае там пасадку будучых неабсяжных пушч. Кажуць аднак, цяпер ужо маецца больш палёў, чым было ў тых краях 20 год таму. Дык якая шырыня тых палёў магла быць тады, калі і зараз яна зусім мізэрная?

Сялянскія хаты паміж лясоў да неверагоднасьці маленькія, часта проста наваленыя з нейкіх дошак, нічым ані не прыбітых, ані не перавязаных. Шмат маецца халуп без сені. Сама хата стаіць без задніх забудоваў. Дзьверы ў іх на апорах, проста з двару, не здольныя абараніць у дрэнную хвіліну. Вокны маленькія, часам без шкла,

толькі засунутыя кавалкам дрэва. Цяжка ўявіць, як людзі ў тых хатах могуць зімаваць. Шмат маецца халуп трошкі лепшых, да які і іншыя будынкі прыстасаваныя, аднак сені нічым не накрытыя, рэдка калі хата, сені і інашыя будынкі маюць аднолькавы і добры дах.

Агароды ўсе занядбаныя, і на іх тырчаць капусты, некалькі буракоў, часам трошкі бульбы, а заўжды істотная частка засеяная семям каноплі. Але ня толькі ў вяскоўцаў у агародах назіраецца тая нястача, тое часа бачна і ў фальварках, дзе бур’яны і пустазельле душаць усё і ўздымаюцца вышэй платоў. – Заможныя, што ўтрымліваюць агароднікаў, у іх столькі ўсялякай гародніны, што яны маюць значна больш разнастайны стол. Аколіцы Магілёва на поўначы цалкам закінутыя; здаецца, што ўзгорак па над Дняпром, канца якому ня бачна, у тым баку мае некалькі тысяч акраў зямлі засеянай ад прыроды лесам, аднак яшчэ малым. Там расьце бяроза, ўлюбёнае дрэва тых аколіц (падобна як і ў Сібіры), альха, асіна, вярба, *vaccinium*, *volipodium*, які раскошна ўздымаецца. Над берагамі Дняпра дзе-недзе паказваюцца таполі, такго гатуну, які расьце над Віслай у Пулавах, і які княжна Ізабэла Чартарыйская ў сваёй працы па садаводству называе сакорамі. Аднак на пустых мясьцінах над Дняпром багата растуць парэчкі лясныя, якіх Клюк называе смародзінай. Якая ж шкода той зямлі, што насельніцтва не здольнае ёй карыстацца. Здаецца, ёй дастаткова ўжо толькі маленькіх плужкоў, якія мы завем нямецкімі, і яна б ужо была лепш чым ёсьць тут звычайна. Зямля тая была б адна з найурадлівых. Я чытаў перыядычнае выданьне, што выходзіць у Пецербурзе пад тытулам “Нататкі айчыны” (Отечественныя запіскі) ў выдавецтве Свініна, з якіх вынікае, што ўрад зямельнай маёмасьці трымаецца ў найлепшым парадку, і выдаткуе велізарныя кошты, каб пашыраць той парадак на ўсе адзьдзелы адміністрацыі. Асабліва абараняюцца лясы. Дзіўная рэч, што прыватныя асобы не пераймаюць гэта. Больш глыбокія краі Расеі мусяць быць надта прыгожымі. Люд менш прыгнечаны, чым тут, боль выказвае здольнасьцей і ідэй. Прыгожы, моцны, сільны, як здаецца гледзячы на тых, што сюды прыяжджаюць з маёнткаў генэралаў ці афіцэраў, калі іх адтуль пасылаюць з рознымі даручэньнямі. Гатунак коней добры, невымяральна моцнай цягі. Падводы ўсе аднастайныя, не камфортныя, але іх канструкцыя мусіць мець нейкія свае карысьці, калі дагэтуль яны звычайна яе трымаюцца. Расейскія цесляры вельмі спрытныя ў пабудове драўляных дамоў. Трэба зьдзіўляцца прыгажосьці асабнякоў, якія трапляюцца часам у гарадах і ў аколіцах Магілёва. Тыя будынкі будуюцца з цокаляем, гладкія і трывалыя. Абшытыя габляванымі дошкамі і пафарбаваныя белым, шэрым, альбо брудна-жоўтым. Часта на мураваным цокале, з карнізамі пад дахам і ўпрыгожваньнямі каля вокнаў у грэцкім альбо гатычным стылі. Ставяцца такім чынам, што з вуліцы нідзе няма дзьвярэй унутар дому, але ўсе ўваходы накшталт як праз браму на двор, а потым з боку ўжо маюцца дзьверы ў дом. Такі спосаб будаваньня зьяўляецца годным, з позірку ўтрыманьня цяпла ўзімку, бо ўвесь дом замыкаецца аднымі дзьвярыма, якія звычайна засланяюцца папярэдняй

забудовай, што перасякае рух паветра. Ёсьць некаторыя дамкі з рознымі вынаходкамі, маючыя фасады ажыўленыя паўкруглымі вокнамі, прыгожа вырабленымі лесьвіцамі, акруглымі салонамі, вокнамі з адной шыбы велізарнага пецярбурзскага шкла, калонамі, хаця і без стылю, чорна пафарбаванымі парэнчамі і г.д.

Фальварак Юзэфава, пана Пашкевіча, у 1 ці 1½ вярсты ад Магілёва, над рэчкай Дубравенкай, вельмі прыемны. Бярозавы лес, можа 300-гадовы, чысты як гай, на поўначы ставок, грэбля, млын на ўсходзе, узгорак закрывае гарызонт хмызамі, і яго ажыўляе позірк на частку Магілёва на поўдні і захадзе. Асабняк напалову мураваны, напалову драўляны, з бакавымі памяшканьнямі салкам драўлянымі, закрыты ад праезду парэнчамі, у нізкім але мілым месцы. Гаспадарчыя будынкі з вежачкамі знаходзяцца з тылу, архітэктурная навінка, якая прываблівае цікаўных паглядзець на іх. Унізе лазенка з падагрэвам. Шкада, што той будынак не быў пабудаваны там, дзе ёсьць малатарня, то бок вышэй на 30 локцей і далей можа сажняў на 200. Тады ён меў бы невыказнай прыгадосьці далягляды. Двор тады павялічыў бы агарод, а малатарня, што стаіць у лесе зправа, надавала б дадатковай прыемнасьці. За тым фальваркам таксама ў вярсьце ці паўтары, у лесе зправа (бярозавымі зьмешанымі з іншымі дрэвамі) знаходзіцца прыгожы дом з каланадай. Гэты прыгожы дом належыць метрапаліту Беларускаму. Пакрыты жалезнай бляхай, дзе зараз вайсковы шпіталь. Шкада, што такі прыгожы дом цалкам зправа закрыты гаямі, бо ён цалкам прыемны і ўпрыгожвае шмат аколіцы ў тым баку. –

Паводле звычаю ў магілёўскай губерні казённыя землі адпускаюцца ў арэнду, паводле кантракту на пэўную колькасьць год. Арэндатар павінен даць наперад адпаведны капітал прапарцыйна ўрадлівасьці глебы, ці лепшага яе ўраджаю. Калі нехта сее 100 чвэрцей жыта, тады за 3, а часам 3½ і 4 зерня мусіць аплаціць. Колькі жыта ўзята на пасеў, столькі гародніны ў суме кладзецца, і звычайна па 10 ці 12 рублёў кожная чвэрць падлічваецца, акрамя таго далучаецца частка сена, і калі ёсьць якія іншыя даходы. Напрыканцы году надыходзіць разьлік, адымаецца працэнт, і атрымліваецца вышэй узгаданая сума, якая, калі б карыстальнік быў не ў стане яе заплаціць, была б аднятая ад капіталу паводле рынкавага кошту. Добры гаспадар з 20 пасеяных чвэрцей мае 1000 коп жыта, капа дае па 22, 24 галона і больш, бо тут снапы маленькія. Дрэнны гаспадар сее 60 і 80 чвэрцей, дык хаця б 1000 коп меў. Жыхары заўжды аддаюць у арэнду дрэння фальваркі. Калі арэндатар тыя паляпшае, то ўладальнік іх адразу аднімецб і ўжо такі фальварак сам выкарыстоўвае, аж пакуль зноўку не давядзе яго да дрэннага стану, і гэтак далей. А найчасьцей ён выдае столькі ўгодзьдзяў, колькі атрымлівае грошай, а потым ані ўгодзьдзяў, ані грошай не аддае, а калі дае ўгодзьдзі, то хутка робіць бясконцую чаргу прэтэнзій і забірае ўгодзьдзі і ўсё, што карыстальнік мае на зямлі. Ёсьць аднак людзі і і тыя, што дзейнічаюць больш годным чынам.

У гэтым годзе ў сьнежні ў Магілёве будуць выбары адміністрацыі. Кожны, хто хоча быць абраны на наступны *Trienium*, ужэ зараз заводзіць сяброўства са старымі, а калі не атрымліваецца пэўнага эфекту, кажа публічна, што ўрад ужо стаміўся, што нічога не можа прымусіць яго да далейшай актыўнасьці, што ён толькі чакае, калі яго звольнюць. Гэта забаўна слухаць з боку і назіраць за намаганьнямі. Сумна было мяне аднак, калі двое судзьдзяў у палаце судовай (*прісудственной*) выхваляліся, што хаця ані трымалі ў руках статуту, ані бачылі яго, але паводле яго былі абраны на судзейства, і нават дагэтуль тая кніга не ў стане іх зацікавіць. Яны аднак прымушаныя вывучаць яе, каб далей быць у стане служыць грамадству. Бо адзін з іх не толькі складаў, але і сам пісаў дэкрэт у пэўнай закладнай справе, які па меркаваньню юрыстаў мае быць адзіны ў сваім родзе, дзе артыкул пра гадавыя, то бок тэрміновыя, выплаты тлумачыўся такім чынам, што слова “год”, у сэньсе “тэрмін”, бралася як каляндарны год часу. Што стварае зьдзіўляючую недарэчнасьць, з якой калі іншы звычайна сьмяецца, то ці будзе судзьдзя таксама па добрай волі сьмяецца з сябе разам з другім. Як жа можна знайсьці там справядлівасьць, калі падобныя тлумачаць закон! – Справа тая была паміж пэўнай самотнай (старай пані) і яе родзічам; было пастаноўлена, што яна можа хоць паміраць з голаду, бо 24х тыднёвы тэрмін быў павялічаны да году і 24 тыдняў. – Варта ўвагі, што расейская працэдура, і нават спосаб пісаньня дэкрэтаў зьяўляецца тым самым (можа з зусім малай розьніцай), што і статут літоўскі. Я чытаў вельмі шмат указаў сенацкіх і іншых выракаў, наконт разводу палкоўніка Сербіна (ніжгародскага палка) з жонкай, дзе я знайшоў усё тое, што мае літоўскае судзейства. Тут мусіць уразіць, што Сербіна цалкам падтрымлівала справу аб разводзе, і першая духоўная інстанцыя дазволіла развод, пры ўсім гэтым, Сінод гэта скасаваў і наказаў, каб палкоўнік жыў з жонкай. Той аднак мяркуючы, што Сінод развод пацьвердзіць, ужо другі раз ажаніўся. Пасьпяшаўся небарака! Кто тады каму даў прыклад права, справа для разважаньняў. Ці Літва Расеі, ці Расея Літве?

У тых краях, якія трапілі пад панаваньне Расеі раней, пошты невыразна лепшыя, за літоўскія, а дазорцы ці даглядчыкі іхныя не маюць не маюць столькі хітыркаў, пры гэтым, калі хто з краёвых ідзе магнатаў, вайсковых ці ўраднікаў, аднолькава як там, так сама і тут пошты паскараюцца; але да чужаземцаў, альбо прыватных асобаў, яны часта ставяцца непрыемна, і пакуль ён штосьці не вытаргуе, датуль коней атрымаць не можа. Моцна трэба пазьбягаць тых пошт, якія трымаюць габрэі, дзе рознымі хітрыкамі, альбо за коней вышэй патрэбнага заплаціш, альбо палову дня страціш. Для паштальёнаў няма ўсталяванай платы, таму яны прымаюць з удзячнасьцю, хто колькі дасьць. У Літве трэба даваць 20 грошаў срэбных, альбо нават і 1 польскі злоты, каб добра ехаць, тут тое самае маеш за 10 срэбных грошаў. Ня ведаючы пра тое, я плаціў як у Літве, і ехаў часам па 20 вёрст за гадзіну, вельмі не хутка аднак (нямецкая міля складае 7 вёрст). Гэткім чынам з Магілёва да Оршы 72 вярсты я ехаў ад 1-й да 6-й пасьля поўдня, а вяртаючыся быў у дарозе ад 11-й зранку

да паловы 4-й пасьля поўдня; правялі на двух станцыях па паўгадзіны, а на адной чвэрць гадзіны, такім чынам агульна мы прабеглі за 3 гадзіны з чвэрцью 72 вярсты, ці 10 $^{2}/_{7}$ нямецкіх мілі; атрымліваецца кожная вярста займала 2 $^{5}/_{7}$ хвіліны, а за гадзіну мы праяжджалі 22 ½ вярсты.

Паштовыя канторы паўсюль асобныя ад коннай пошты. І нават ніколі не знаходзяцца ў суседнім будынку, з нагоды, што тут пошты ёсьць біржавыя, і прымаюць пры нагодзе розныя казённыя грошы дзеля перасылкі іх ад аднаго да другога канца краіны, што патрабуе асобнай бяспекі, таму таксама паўсюль пры паштовых касах стаяць вартавыя вайскоўцы, якія назіраюць за дзяржаўнымі касамі. Гэткая сістэма надта зручная для краіны, інакш было б немагчыма забясьпечваць гандлёвыя альбо іншыя сувязі. Гэта зьяўляецца вялікай спрыяльнасьцю для ўсіх краёў Яго Імпэратарскай Моцы. – На пецярбурзскім тракце пачынаючы ад Вільні, паўюсль паштовыя будынкі прыгожыя і часьцей за ўсё мураваныя, і вельмі аздобленыя, аднак сумна і дзіка дарагія. У агульнасьці, тут яшчэ трэба ўзгадаць нешта пры габрэяк і габрэяў. – У Вільне, і нават ва ўсёй Літве, пачынаючы ад мяжы Палесься аж да Магілёва і Оршы, габрэйкі маюць азіяцкія галаўныя ўборы. Едучы ад Палесься аж да Ваўкавыска я не бачыў на ніх пэрлін, як у Галіцыі. У Ваўкавыску адна габрэйка мела на сабе каралі ў выглядзе каўнэрыка. Далей падобныя каралі можна было бачыць паўсюль. У Вільне аднак, на галавах носюць цюрбаны з шалей і хустак, на шыі шнуры пэрлін ад найкароткага да найдоўгага па 6 ці больш, аж да 12 шнуроў, спадаючых ад падбародку ўніз аж да грудзей, так сама як я бачыў на гравурах у султанак індыйскіх набобаў. Некаторыя апранутыя паводле звычайнай моды лепшага тону, але тыя атрымліваюць пагарду ад сваіх і звычайна лічацца прастытуткамі. Ніжэйшага ўзроўня габрэйкі выходзяць на вуліцу ў вялікім белым покрыве (*velum*) падобным на павешаную на сябе прасьціну, увесь чалавек укрыты ею цалкам акрамя твару. Паміж сабой размаўляюць, асабліва пры чужых, па габрэйску. Але мова звычайная гэта перакручаная нямецкая, ці нямецкая па-габрэйску. У Старасеку пад Шкловам я бачыў у габрэйкі на галаве ўбор падобны чымсьці да габрэяк з Галіцыі, і гэта быў толькі адзіны падобны пырклад. Мужчыны габрэі маюць аднастайную вопратку, як дзе нідзе ў некаторых польскіх правінцыях. Увесь гандаль знаходзіцца ў іх руках, надакучлівы і часта моцна дзёрзкі. Урад тут зьбіраецца ўвесьці сродкі супраць ашуканства габрэяз, якія звычайна маюць найбольшыя даходы з найбеднага ці менш за ўсё адукаванага клясу людзей, альбо таксама з найбольш распушчанай моладзі. Але тыя сродкі будуць па рознаму зьвязаныя ўкаранелай амаль спрадвечнай слабай актыўнасьцю і павольным рухам. Пры ўсім гэтым, ніякі ўрад у Эўропе не паказвае столькі доказаў паляпшэньня таго народу, ня гледзячы на ўсе так моцна супраць яго прадпрынятыя сродкі, чым урад расейскі. Заахвочваньняў для габрэяў да новых паселішчаў у розных паўднёвых правінцыях было зроблена больш, чым усе сыстэматычныя спробы найбольшага іх прыгнёту. Аседлыя ў Хэрсонскай губерні габрэі за некалькі год у якасьці фермараў узьняліся да заможнасьці, якую найнадзейна стварае шчырая праца і сумленны

заробак без нараканьняў. Прыклад тых габрэяў заахвоціў бедны кляс да падобнага жыцьця. Шматгадовыя неўраджаі ў некалькіх губренях павялічылі агульнае няшчаснае становішча тамашніх жыхароў, вылішаючы габрэяй шляхоў да лайдацкага жыцьця; не было каго ашукваць у тых масштабах, каб гэта забясьпечыла столькі сямей, колькі іх было раскідана па тых губернях. Такім чынам яны рушылі да хэрсонскіх пасяленьняў, і паводле дзяржаўных сьведчаньняў, якія выдаваліся габрэям у самой Магілёўскай губерні, да Хэрсону іх сышло, да паловы верасьня 1822г., за той год звыш 9000 душ, і яны не толькі зрабілі тое падарожжа за ўласны кошт, але нават на першыя патрэбы новай гаспадаркі нічога ад ураду не патрабавалі, акрамя пацьвярджэньня вольнасьці ад падаткаў і іншых цяжараў на 10 год ці больш, у залежнасьці ад слабод, якія атрымалі тыя прывілеі.